Кошт каштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 6000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 70.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аппата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 10000 мк., сярод тэксту 9000 м. і на 4 стр. 8000 м., за радок пятыту у 1 шпальт.

№ 17. Вільня, Нядзеля, 7-га кастрычніка 1923 г. Год I.

## Па сьлядох фашыстау.

Нядаўна ў Варшаве адбыўся зьезд польскіх вучыцялёў народных школ. Пры адкрыцьці зьезду сэнатар Новак у сваей прамове выказаў гарачы пратэст, падтрыманы ўсім зьездам у яго рэзалюцыі, проці таго, што цяперашні міністар асьветы, нацыяналіст Гломбіньскі, стараецца абярнуць школу ў паслухмяны інструмэнт урадовае палітыкі, не зварачаючы ўвагі на запраўдныя высокія заданьні народнае школы.

Гэта аднасілася да палажэньня *польскае* народнае школы. Але мы на практыцы пераканаліся, што сучаснае міністэрства ў яшчэ вялікшай меры імкнецца падчыніць палітычным мэтам ураду школы *нацыянальных меншасьцяў*, калі ня зусім задушыць гэтыя школы.

Цэлы рад апошніх загадаў улады адносна да школ меншасьцяў пацьвярджае гэта. Асабліва-ж цяжкі для гэтых школ аказваецца загад аб „обыватэльстве" вучыцялёў, каторы *фармальна* адносіцца і да польскіх школ, але фактычна б'ець па школам *меншасьцяў*: бо для *непаляка* атрымаць у Польшчы прызнаньне самага бязспрэчнага права на „обыватэльства"—гэта рэч блізу безнадзейная....

Загад аб тым, што вучыцельствам могуць займацца толькі людзі, якія маюць „обыватэльства" ў Польшчы, наагул вельмі дзіўны. Нават у царскай Расеі блізу ўсе вучыцялі чужых моваў былі *заграні[ч]нікі*, і гэта зусім не дражніла расейскага зьвярынага нацыяналізму. У сучаснай Латвіі ёсьць, праўда, закон аб „обыватэльстве" пэдагогаў, але адносіцца ён выключна да *кіраўнікоў школ*, якія адказываюць за ўсю пастаноўку справы навучаньня і ўзгадаваньня моладзі. Скуль-жа пан Гломбіньскі ўзяў узор для свайго загаду?

Эндэцкі лейб-орган „Gazeta Warszawska" дае ў нумары з 3/X ясны адказ на гэтае пытаньне. Аказваецца, што загад п. Гломбіньскага аб абавязковым „обыватэльстве" вучыцялёў ёсьць *точнае паўтарэньне загаду аб тым-жа італьянскага фашыстаўскага ўраду*. „Gazeta Warszawska" ў стацьці „Mniejszości narodowe a program szkolny rządu faszystów" з захопленьнем гаворыць аб „энэргічных" загадах фашыстаў для прыватных школ. Італьянскі міністар асьветы даў прыказ, каб усе, хто хоча закласьці прыватную школу ці ў такой школе вучыць, мелі-бы тыя-ж „кваліфікацыі", якія вымагаюцца ад вучыцялёў урадовых сярэдніх школ, а перад усім мелі-бы італьянскае „обыватэльства".

Як перанясеньне ў Польшчу фашыстаўскіх законаў адбіваецца на беларускай школе, можна лёгка зразумець і без прывядзеньня фактаў. *Заходняя Беларусь*, якой сілай аружжа заўладала Польшча, *прадстаўляе частку агульна-беларускага нацыянальнага цэлага*, штучна парэзанага ў імя інтарэсаў польскага нацыяналізму і польскае нацыянальнае экспансіі. Дзеля гэтага ў „польскай" частцы нашае Бацькаўшчыны аказалася даволі многа беларусаў родам з Усходняе Беларусі, падобна таму, як у апошняй знаходзіцца многа выхаджэнцаў з заходніх паветаў Беларусі. Такое перамяшчэньне адбылася пераважна йшчэ да падзелу Беларусі рыжскім трактатам, і беларусы, радзіўшыяся на Усходзе, працавалі ў заходніх беларускіх культурных установах і школах зусім таксама, як „заходнікі" і па сягоньняшні дзень працуюць, прыкладам, у Менску, не сустракаючы з боку радавае ўлады ніякіх перашкодаў. Польская фашыстаўская палітыка выкінула цэлы рад „усходнікаў" з беларускіх гімназіяў Заходняе Беларусі, і вось гэныя цэнныя культурныя працаўнікі прымушаны цяпер перабірацца на Усход. Ад такога перакіданьня сіл на Усход, ведама, узмацуецца беларуская культурна-нацыянальная работа ў межах С. С. Р. Р.,—але затое (як гэтага і хоча п. Гломбіньскі), аслабее на Захадзе: бо прыехаць сюды беларускім дзеячом „заходнікам" з Менску, Вітэбску ці Магілёва Польшча не пазволіць....

І не дарма „Gazeta Warsz." з такім энтузіязмам вітае школьную палітыку італьянскіх фашыстаў: перасаджаная на польскі грунт, яна дасьць, ведама, *спадзяваныя* вынікі, якія дае кожын гвалт дужэйшага над слабейшым. Але, поруч з спадзяванымі, дасьць яна і вынікі *неспадзяваныя* і, бадай, для Польшчы наагул *непажаданыя*: яна паможа перанесьці цэнтр цяжару беларускае справы на Усход, паможа распаліць тамака вялікае вогнішча беларускага нацыянальнага Адраджэньня пад ахаронай *Чырвонага Сьцягу* і пад лёзунгам непрымірымае барацьбы з „*чорнымі кашулямі*" фашыстаў. А сьвятло гэнага чырвонага вогнішча на Усходзе цераз усе гранічныя межы і кардоны лёгка можа адбіцца і на Захадзе Беларусі, дзе ўсё больш пашыраецца панаваньне Цемры....

Ці падумаў аб гэтым пан Гломбіньскі, перакладаючы на польскую мову загады свайго італьянскага калегі ў чорнай кашулі?!

**К. Фалькевіч.**



## Пагроза міру.

Над Эўропай ізноў сабраліся чорныя хмары. Атмасфэра згушчаецца. І здаецца, што вось-вось загрыміць гром, і пачнецца нейкая новая, шалёная завіруха.

Людзі, змардаваныя перажываньнямі апошніх дзевяцёх гадоў, з трывогай паглядаюць у той бок, скуль ідуць хмары. А ідуць яны, як і дзевяць гадоў назад, ізноў з Нямеччыны.

Ня гледзячы на спадзяваньні ўраду Штрэзэмана, што ўраз-жа з спыненьнем пасыўнага праціўленьня французскім акупантам у Рурскай краіне Рэспубліка Францыя працягне немцам руку згоды і дапаможа нямецкаму народу ўмацаваць яго маладую рэспубіку, — французскі ўрад ня толькі не сьпяшаецца наладзіць мірныя адносіны з Нямеччынай, але зусім сьвядома зацягівае адказ на нямецкія прапазіцыі. А з гэтага карыстаюцца ўсе тыя элемэнты ў Нямеччыне, якія імкнуцца да пераваroту, да разбурэньня Нямецкае Рэспублікі, ідучы пад штандарам далейшае барацьбы з Францыяй.

Выбух такое барацьбы мо' і пажаданы для лішне ўжо разласаваўшыхся на кроў людзкую французскіх генаралаў, для якіх у прыпадку новае вайны адкрылася-бы шырокае поле дзейнасьці. Мо' Францыя тады запраўды здалела-бы назаўсёды заўладаць Прырэйнскімі краінамі, у якіх цяпер за французскія франкі арганізуецца „сэпаратыстычны" рух—рух да адарваньня гэтых краін ад Нямеччыны і далучэньня да Францыі. Мо' ўдалося-бы і Баварыю аддзяліць ад нямецкага саюзу і гэтым яшчэ больш аслабіць сілы нямецкае нацыі. Але тое, што можа быць карысна для французаў, выклікае ў нас сур'ёзны страх за нашу долю ў сувязі з магчымымі для нас вынікамі новае ваеннае завірухі ў Эўропе.

Калі прыпомнім ваенную тактыку Нямеччыны ў пачатку сусьветнае вайны, дык убачым, што немцы, маючы перад сабой некалькі ворагаў, заўсёды стараліся першыя ўдары кіраваць проці слабейшага спаміж іх. Гэтак, ваюючы адначасна на Захадзе і на Ўсходзе, немцы ў пачатку вайны спадзяваліся, што, кінуўшы ў першы чарод усе свае сілы проці больш слабай Францыі і не баронячыся перад наступленьнем дужэйшае Расеі ў Усходнія Прусы, яны зразу зьніштожаць гэнага слабейшага ворага. Іх плян напэўна ўдаўся-бы, калі-б ня зусім неспадзяваны адпор з боку Бэльгіі, якая спыніўшы нямецкія войскі ў іх паходзе на Парыж, дала Францыі магчымасьць правясьці спакойна мабілізацыю і пасьля адкінуць немцаў, ужо падыходзіўшых да французскае сталіцы.

Трэба спадзявацца, што, калі ў Нямеччыне адбудзецца пераварот, і ўладу захопяць ваяўніча настроеныя партыі, дык або самі немцы пачнуць вайну з суседзямі, або—ў прыпадку перавагі камуністаў—суседнія буржуазныя рэспублікі з Францыяй наперадзі выступяць проці Нямеччыны „у імя абароны ладу", хаця цяпер усімі спосабамі стараюцца самі гэны лад разбурыць.Супраць немцаў выступяць у такім прыпадку — з аднаго боку — француска-бельгійскія злучаныя сілы, з другога—цесна зьвязаная з Францыяй вайсковымі ўмовамі Польшча. А як Польшча—непараўнана слабейшая за Францыю, дык, мяркуючы паводле нямецкае тактыкі 1914 году, можна спадзявацца, што нямецкі ўрад будзе пакіраваны проці гэтак нямілай для Нямеччыны, дагэтуль не ўмацаваўшае, як сьлед, свайго дзяржаўнага арганізму, Польшчы. Зьніштажэньне жывое сілы Польшчы—яе арміі — прадстаўляецца для немцаў вельмі ўдзячнай задачай, і зусім магчыма, што ў прыпадку выбуху новае эўрапэйскае вайны Нямеччына памкнецца да выпаўненьня яе. Вось тут-то і ляжыць галоўная небясьпека для Польшчы і для нас: гэта—магчымасьць ублутаньня ў новую вайну ў імя вернасьці саюзьніцы Францыі, хаця йшчэ далёка ня ўсе раны зажылі на целе нашае краіны ад апошніх войн. Вось, чаму з праўдзівай трывогай углядаемся мы на падзеі ў Нямеччыне.

Да гэтае небясьпекі лёгка можа далучыцца і другая: з Усходу. Хаця Троцкі заяўляе аб сваім міралюбстве, аднак, судзячы па тону радавае прэсы, зусім магчыма выступленьне С.С.Р.Р. на падмогу нямецкім камуністам, калі-б апошнім удалося захапіць дзяржаўную ўладу ў свае рукі, ды калі-б проці іх выступіла якая-колечы суседняя буржуазная дзяржава. А дарога з С.С.Р.Р. у Нямеччыну вядзе якраз праз Польшчу...

Такім парадкам, пераварот у Нямеччыне ня суліць супакою Эўропе. Вось, чаму агульная ўвага нашага грамадзянства, ня гледзячы на вельмі крытычнае ўнутранае палажэньне ў Польшчы, прыкавана цяпер у нас да Нямеччыны: стуль можа выляцець іскра, якая здольна запаліць новы ваенны пажар у Эўропе.

**Аль.**

можам атрымаць толькі тры аршыны, а рэшту атрымаюць за нас асаднікі, якіх прысылаюць з-пад Варшавы, Пазнані ці Галіччыны і панкі, якія могуць заплаціць па 30 мэтрычных цэнтнараў збожжа за дзесяціну. Гэта і ёсьць так званая хьена-пястоўская зямельная рэформа.

Далей пасол расказаў нам аб школах. Школы ў нашай роднай мове пазачынялі, а вучыцялёў нашых разаслалі па ўсей Польшчы; дзеткі нашы застаюцца бяз навукі, на места родных школаў паадчынялі польскія, ў якія дзеці ня хочуць хадзіць дзеля таго, што не разумеюць мовы вучыцялёў, прысланых з Галіччыны. Так сама расказаў пасол і аб рэлігійным уціску. А ўрэшце прачытаў нам параграфы з Польскай канстытуцыі, дзе піша, што ў Польскай Дэмакратычнай Рэспубліцы кожная нацыянальнасьць можа на сваей мове гаварыць, вучыцца і маліцца свабодна. Нічога гэтага мы беларусы тут ня маем, усё гэта прасьледуецца мясцовымі царкамі, якія запужваюць цёмную вясковую люднасьць.

Калі гэта мы дачакаемся, каб права і свабода запанавала і на нашай беспатольнай Бацькаўшчыне? Калі гэта і мы ня будзем лічыцца грамадзянамі трэцяга гатунку?!..

**Быўшы на мітынгу селянін П.**

### Поп дантыста.

У нас у Далматаўшчыне, Нясьвіс. пав., трапілася гэткая гісторыя. Адна бедная кабеціна паслала сваю дачку папасьвіць каля царквы кароўку. Тая пасе і любуецца як ласа кароўка ела траву. Але ня доўга цягнулася такая звычайная вясковая ідылія. Угледзеўшы гэта наш поп Адам Ждан як шалёны, кінуўся на бедную дзяўчынку і пачаў яе біць па чым-толькі папала. На яе лемент прыбегла ратаваць яе матка. Як хутка яна бегла, так па маленьку, заліваючыся сьлязамі, плялася бедная кабецінка назад да свайго дому. Папоўская рука не пашкадавала яе старасьці і не пашкадавала пасівеўшых ад старасьці і ад нэндзы валасоў, не пашкадавала, аблітага сьлязамі і потам яе твару. Вынікам гэтага было тое, што зьбітая, з трыма выбітымі зубамі кабеціна падала на духоўнага бандыту і на камэнданта паліцэйскага пастарунку Маскалевіча жалабу ў суд, які разгледзеўшы жалабу і выслухаўшы сьведак, папа Міронічка прыгаварыў на шэсьць месяцаў турмы, а паліцэйскага Маскалевіча апраўдаў.

Справа на гэтым здаецца павінна былабы і скончыцца „катузі па заслузі", дык не. Калі матушка даведалася аб такім судовым прыгавары, дык упала ў істэрыку. На ратунак яе прыляцеў і фэльчар. Але тут ужо наадварот, як ён скоро бёг ратаваць, дык яшчэ скарэй уляпётываў ад хворай. Яна, убачыўшы фэльчара, мусіць была прытомнаю, як шалёная кінулася на беднага эскулапа, ўшчаперылася на яго і так конна выехала на ім аж на ганак, адкуль ен, не аглядаючыся, як самаход, пёр да дому. Што за прычына, што матушка там скора ачуняла? А ад злосьці на праўду,—фэльчар быў сьведкаю з боку кабеты, і на судзе рэзаў у вочы праўду-матку, не зважаючы навет на духоўны сан абвінавачанага. Ня ведаю, што робіць і аб чым думае вышэйшае праваслаўнае духавенства, назначаючы такіх служыцеляў царквы.

**Веруючы.**

### М-ка Ікажна (Ікаэьнь), Дзісенскага пав.

Ніхто, каму ведама наша мястэчка, не заве яго Ікаэьнь, а ўсе завуць Ікажна. Мусіць, спадабалася каліс нейкаму расейскаму чыноўніку, а можа яшчэ перад Расеяй якому польскаму, перахрысьціць Ікажна ў Ікаэьнь, вось і няма цяпер Ікажна, а ёсьць Ікаэьнь. Ды й ня з адным Ікажнам гэтак здарылася: Балотнікі перарабіліся ў Запружаны, Журні—ў Адамова, ёсьць і яшчэ гэткія прыклады.

Падменіваюць ня толькі назовы засялёных мяйсцаў, а й жыхароў. У Ікажне на 600 з гарой душ няма ніводнага паляка, а ўсе чыстыя беларусы. Значная з іх большасьць каталікі, а невялікая частка праваслаўныя. Дык з тых каталікоў большасьць лічыць сябе палякамі, хоць папольску некаторыя й сьмяюцца ня ўмеюць. Праваслаўныя-ж і нязначная частка каталікоў лічыць сябе беларусамі. Гэтая розьніца дужа дрэнна адбіваецца на агульных справах. Калі 4 жніўня быў арганізаваны беларускі спэктакль, дык арганізатарам былі стаўлены ўсялякія перашкоды спаміж сваіх-жа ікажанцаў, каб не дапусьціць на сцэну беларушчыны. Аднак-жа лепшыя маладыя сілы перамаглі ўсе перашкоды, і спэктакль аставіў задаваленьне нават ў варожых элемэнтах. Будзем спадзявацца, што далей тутэйшая моладзь будзе дружна працаваць на карысьць Бацькаўшчыны, бо жыцьцё вучыць. Колькі ня было тут спэктакляў як беларускіх, так і польскіх, заўсёды беларускія застаўлялі лепшае ўражаньне ад польскіх. Апрача таго, і леташнія выбары паказалі, гдзе праўда. Яшчэ й году не прайшло пасьля выбараў, а ўжо тыя, хто галасаваў за „Wyzwolenie" і васьмёрку, пачынаюць лаяць свае нумары і гавораць пра сябе, што яны не палякі, а беларусы. А чаму-ж не галасавалі за сваіх?

**Люцыян Заметка.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Каапэрацыя ўзмацняецца.** На апошнім пасед-жэньні прэзыдыуму праўленьня Цэнтрабелсаюзу пастаноўлена лічыць, што праца арганізацыйнага аддзелу ЦБС досыць узмацнела, каб пачаць шырокую кампанію па прыцягненьню да каапэрацыі новых сяброў.

Арганізацыйнаму аддзелу даручана асаблівую ўвагу зьвярнуць на прыцягненьне да каапэрацыі сялянскіх масаў.

**К адпраўцы экскурсантаў на с.-г. выстаўку.** Беларускаму Дзяржаўнаму Ўнівэрсытэту запрапанавана зьвярнуць увагу на тое, каб ад Унівэрсытэту выдаваліся камандыроўкі, у большасьці сялянам ці сялянскім дзецям.

**Да адчыненьня санаторыя для нэрвозных.** Чырвонаму Крыжу Беларусі Народны Камісарыят Земляробства перадаў маёнтак „Асташыцкі Гарадок", дзе з вясны наступнага году мае быць адчынены санаторы з поўным пансыёнам для нэрвозных і зморанах.

Частка мейсцаў санаторыя будзе платнай, прычым увесь прыбытак з санаторыя будзе скарыстаны на ўтрыманьне дармовых мейсцаў, якія будуць давацца прафэсыянальным і партыйным арганізацыям.

Прафэсар па нэрвозных хваробах Кроль абяцае прыняць удзел у арганізацыі санаторыя.

**Льготная прадажа падручнікаў.** У кнігарні Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі вучням пралетарскага пахаджэньня будуць прадавацца падручнікі па зьменшаных цэнах і ў крэдыт.

**Перарэгістрацыя студэнцтва.** Дзеля ўзмацненьня працы сярод пралетарскага студэнцтва, па ўсіх праф. сэкцыях абвешчана перарэгістрацыя студэнтаў Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту.

**У Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце.** Прадметнай Камісіяй Унівэрсытэту абабран асыстэнтам па катэдры беларускае энтографіі сябра Інстытуту Беларускае Культуры Алесь Шлюбскі.

**К экспорту хлеба.** Камісія па экспорту хлеба даручыла статыстычнаму бюро сабраць матар'ял аб агульнай прадукцыі Беларусі ў гэтым годзе і мяйсцовых патрэбах у хлебе, дзеля таго, каб выявіць, які лік хлеба можа быць адпраўлены заграніцу.

**Хлебныя апэрацыі „Хлебапрадукту".** Беларуская кантора „Хлебапрадукту" мае загатовіць у гэтым годзе 1.000.000 пудоў хлеба, 300.000 пуд. ячменя і аўса і 200.000 пуд. льнянога семя. Загатоўка будзе пачата 1 кастрычніка.

Канторай ужо атрыман нарад на адпраўку ячменю у Латвію.

**Каапэрацыйная праца сярод кабет.** Цэнтрабелсаюз зварачвае вялікую ўвагу на каапэрацыйную прапаганду сярод вясковых кабет.

Нядаўна на мейсца выехалі кабеты-інструктары Цэнтрабелсаюзу дзеля правядзеньня каапэрацыйнай кампаніі сярод кабет.

### Землябудаўнічая праца на Беларусі.

1 кастрычніка Ўпраўленьне Землябудаўніцтва Народнага Камісарыяту Земляробства Беларусі канчае летні плян землябудаўнічых прац, якія можна падзяліць на гэткія катэгорыі: 1) адмежаваньне дзяржаўнай зямельнай маемасьці, 2) разьмеркаваньне непрацоўнай зямлі між сялянамі і 3) праца па ўнутрысялібнаму землябудаўніцтву.

Прычым, у гэтым годзе Ўпраўленьнем асаблівая ўвага зьвернута на першыя дзьве катэгорыі землябудаўнічных прац, дзеля таго, каб у будучым годзе яны не затрымалі грунтоўных прац па ўнутрысялібнаму землябудаўніцтву.

Унутрысялібнае землябудаўніцтва ў гэтым годзе праводзіцца, як практыка.

У гэтым напрамку цяпер галоўныя працы праводзяцца ў Мазырскім павеце, дзе яны адбываюцца ў ліку $7^1/_2$ тысячаў дзесяцін з 11 вёскамі.

Там цяпер працуе партыя карморнікаў, пад кіраўніцтвам якіх будуюцца новыя вёскі, устанаўліваецца норма зямлі для падзелу і г. д.

Яшчэ больш-менш буйныя працы такога характару праводзяцца ў Бабруйскім павеце ў ліку паўтары тысяч дзес.

Усе працы па ўнутрысялібнаму землябудаўніцтву выконваюцца па заявах сялян.

У сучасны момант у Упраўленьні Землябудаўніцтва ідзе падрыхтоўка да зімовага пэрыяду.

У зімовы пэрыяд будуць працягнуты, па магчымасьці пачатыя ўжо працы і зроблена падрыхтоўка да правядзеньня ўнутрысялібнага землябудаўніцтва ў будучым годзе ў шырокім маштабе.

### Калектыўныя гаспадаркі ў Беларусі.

У апошні час сярод калектыўных гаспадарак у Беларусі мейсцамі робіцца аб'яднаньне бліжэйшых гаспадарак у адзін больш буйны калектыў.

Гэткае аб'яднаньне робіцца дзеля ўзмацненьня іх.

Шмат якія гаспадаркі зразумелі, што паасобку яны маюць менш магчымасьці дзеля палепшаньня свайго становішча, чым супольна.

Народны Камісарыят Земляробства з свайго боку зьвярнуў увагу на тое, каб калектыўныя гаспадаркі пры разьмежаваньні зямлі атрымоўвалі ня менш мінімуму, які ўстаноўлены ў 100 дзесяцін, што робіцца дзеля таго, каб яны мелі магчымасьць прымаць да сябе новых сяброў.

Лік калектыўных гаспадарак у Беларусі за апошнія 3 месяца павялічыўся.

За гэтае лета арганізавана ў краі 5 новых працоўных арцеляў, 4 сельска-гаспадарчых таварыствы і 1 арцель па выврабу масла.

Усяго ў сучасны момант у Беларусі ёсьць 180 сельска-гаспадарчых таварыстваў, 47 сельска-гаспадарчых арцеляў, 5 прамысловых арцеляў, 8 камун і 1 меліорацыйнае таварыства.

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

## „Рунь".

Вышаў № 3— за верасень — часопісі вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі, выдаванай, з дазволу Пэдагаг. Рады, толькі што арганізаваным „вучнёўскім Выдавецтвам Рунь".

Выдавецтва зьвяртаецца ў прадмове да ўсяго беларускага грамадзянства і вучнёўства—каб падтрымалі гэтае, вельмі карыснае, дададзім мы, — прадпрыемства. Кожны беларус можа запісацца ганаровым сябрам Выдавецкай Суполкі.

„Калі грамадзянства падтрымае „Рунь", дык яна разрасьцецца і закрасуе буйнай нівай", пекным вобразам канчаецца прамова.

З свайго боку далучаемся да гэтага закліку вучнёўскай моладзі да грамадзянства.

Зьмест нумару дае права на гэтае.

Сшыток пачынаецца моцным вершам „Бура ў начы". — Бура шмат чаго паламала, шалеючы ў начы, але не зламала надзеі на заўтрашнюю пагоду...

„З каранёў-жа дубоў паламаных
„Пучкі сталі ізноў вырастаць...
„А з астаўшых багацьцяў няўкраных
„Пачалі новы зруб будаваць"..

— гэтак бадзёрна канчае малады аўтар з вёскі Зарудзічы.

Артыкул Б.К. заклікае вучняў да стварэньня новае скауцкае дружыны, бо са скаўцтвам у іх неяк ня клеіцца на жаль..

Рад вершаў дае малюнкі надходзячай восені.

Сур'ёзнае значэньне маюць „песьні, загадкі і прыказкі, сабраныя у в. Зарудзізы Ашм. пав.", якія будуць друкавацца і далей.

Да гэтай працы варта асабліва заахвоціць вучняў, даўшы толькі ім добрую інструкцыю, як рабіць запісы.

Аддзел „Жартаў" мог-бы быць больш дасьціпным.

Сшыток аздоблены рысункамі і патрэтамі дырэктара і інспэктара, зробленымі ня зусім артыстычна ўласнымі мастакамі Гімназіі.

## Курс на грошы.

**Варшава, 3-га Кастрычніка.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 485.000 |
| Нямецкая марка | 0.00095 |
| Фунты штэрл. | 2.207.000 |
| Франкі франц. | 28.625 |
| Франкі бэльгійск. | 24.000 |
| 10 руб. золатам | — — |
| Польскі злоты | 50.800 |



Рэдактар-Выдавец Я. Лагіновіч. Друкарня Лeвін і Сын. Вільня, Нямецкая 22.